Bialystok, den 12. Juli 1942
№ 16

NEUER WEG
Weissruthenische Wochenzeitung für den Bezirk Bialystok

PREIS 20 PF.
Цана 20 фнг.

# НОВАЯ ДАРОГА

Беларуская тыднёвая газэта на Беластоцкую Акругу

Verlag: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437 — Bankkonto Stadtsparkasse 700. Anzeigenpreise: z. Zt. ist die Preisliste 1 gültig.

Беласток
12-га ліпеня 1942.

Адрас Рэдакцыі: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437—
Банкконто Гарадзкая Каса Ашчаднасьці 700
Цана абвестак паводле лісты цэнаў 1.

## Вулкан на Ўсходзе

**Упадак Сэвастопаля быў сыгналам, які распачаў цэлы рад посьпехаў нямецкае афэнзывы на ўсходнім фронце.**

Брытанская агітацыя, якая дасюль займалася брахнёй аб нібы-та бесклапотнасьці сытуацыі на эўрапэйскім усходзе, цяпер ня ведае, у які бок кінуцца. Што-ж цяпер яна можа сказаць? Пераможны ход пачатае нямецкае афэнзывы хутка сьцебануў брытанскую інфармацыйную службу. Цяпер яны стараюцца з усіх сілаў, каб не адстаць ад нямецкага ваеннага камандаваньня...

Яшчэ ў канцы мінулага тыдня англійцы й амэрыканцы, ня гледзячы на камунікаты нямецкага Найвышэйшага Камандаваньня, гаварылі, што на ўсходзе, маўляў, нічога няма, няма нямецкай афэнзывы. Але вось цяпер надзвычайны справаздаўца Рэйтэра нэрвова тэлеграфуе, што **ўвесь фронт ад Ленінграду аж да Растова — падобны да вулкану. Ангельскі журналіст прызнае ход падзеяў. На сярэднім і паўдзённым адрэзках фронту нямецкія ўдарныя баявыя сілы прайшлі праз савецкія пазыцыі, разьбілі або акружылі моцныя варожыя ўгрупаваньні й прыблізіліся к Дону.** Ангельская газэта «Дэйлі Мэйль» змушана цяпер паведаміць, што з Расеі надыйшлі паважныя весткі. У Цімашэнкі выйшла зусім гэтак сама, як і ў Аўшынліка ў Паўночнай Афрыцы. Абодва яны апынуліся ў вельмі небясьпечнай сытуацыі, з якой ім удалося-б выпутацца, каб ня было ніякага няшчасьця. Ангельскае тэлеграфнае агенцтва нават паведаміла аб **новых мэтадах змаганьня немцаў у наступе на ўсходнюю Украіну.**

**Тады, як побач з Паўночнай Афрыкай саюзьнікаў запякло балюча на ўсходнім фронце, і з Далёкай Поўначы да іх даносяцца гіёбавыя весткі.** Мурманскі караванны шлях, па якім мела наплываць бязьмерна патрэбная помач у матарыяле, цяпер ізноў абхоплены агнём нямецкіх падводных і паветраных баявых сілаў. Тысячы брутторэгістратоннаў варожага караблеабыйма, якія пайшлі на дно мора, твораць у Паўночным Ледавітым акіяне новыя могілкі караблёў, так як і ў Атлянтыцкім акіяне, так як і ў Міжземным моры. А за кожную брутторэгістратонну ў Лёндане і ў Вашынгтоне праліваюць сьлёзы.

Нястрыманае пасоўваньне наперад нямецкіх фронтаў на Ўсходзе і ў Паўночнай Афрыцы — гэта праблема караблеабыйма, якая дзякуючы дзейнасьці нямецкіх падводных лодак у Атлянтыцкім акіяне сталася праблемай жыцьця для Брытанскай Імпэрыі й Паўночнай Амэрыкі. Справа караблёў цяпер для іх вырасла ў надзвычай важную справу, якая наагул вырашыць вайну. Апошні ўдар нашае зброі, нанесены варожаму заспасабляючаму суднаходзтву ў Паўночным Ледавітым акіяне, у Лёндане й Вашынгтоне, урэшце, даў магчымасьць зразумець, што эўрапэйскі **ўсход мае ня толькі фронт на сушы, але й фронт на моры.**

Нямецкія войскі ў Сэвастопалі.



Горад у выніку баёў цалкам зьнішчаны.
**ПК — Здымка: Ваенны справаздаўца Гайк (НН)**

## ВАРОНЕЖ ЗДАБЫТЫ

**Як падало Галоўнае Камандаваньне Арміі ў Надзвычайным Камунікаце 7 ліпеня 1942 г., важны прамысловы горад Варонеж, на ўсход ад Дону, здабыты.**

### ЗАТОПЛЕНА 192.000 БРТ.

**Ад 2-га ліпеня нямецкія падводныя лодкі і бомбавыя самалёты заатакавалі амэрыканскі караван караблёў, плыўшы ў Архангельск. Караван складаўся з 38 караблёў, наладованых ваенным матарыялам, празначаным для Савецкага Саюзу. Караван быў зьнішчаны. 19 караблёў у 122.000 БРТ. было затоплена самалётамі, 9 караблёў у 70.000 БРТ. затоплена падводнымі лодкамі. Усяго, гэткім чынам, затоплена 28 караблёў разам у 192.000 БРТ. Наступна вораг страціў адзін цяжкі амэрыканскі крэйсар. Рэшта каравану караблёў праследуецца.**

## ВАЙНА

Пасьля **здабыцьця Сэвастопаля нямецкая афэнзыва шырокім фронтам разгарнулася на ўсёй лініі ад Ленінграду аж да Растова.** Нямецкія й саюзьніцкія войскі, праламіўшы савецкія пазыцыі на паўдзённым і сярэднім адрэзках усходняга фронту, прабіліся **да Дону й перайшлі яго.** Важны прамысловы горад **Варонеж,** на ўсход ад Дону, **здабыты. Бальшавіцкі фронт прарваны на шырыні 300 кілямэтраў.** Усьцяж узрастае лічба палонных і ваеннае здабычы. Спробы ворага супраціўляцца разьбіты. У бітве за Варонеж толькі адна нямецкая танкавая дывізыя зьнішчыла 61 савецкі танк. Нямецкае лятунства падтрымлівала бязупынна дзеяньне сухапутных войскаў, умешваючыся ў баі. **У ваколіцы Ржэва,** у выніку праведзенай шырокім фронтам атакі, **вораг выкінуты з сваіх пазыцыяў.** Лятунства праводзіла моцнымі сіламі цяжкія налёты на варожыя шляхі заспасабленьня й жалезныя дарогі. Аб посьпехах гэтых налётаў сьведчыць колькасьць зьбітых савецкіх самалётаў. За адзін толькі дзень у паветраных баёх **зьбіта ганчакамі 127 варожых самалётаў.**

Цяпер ужо можна падаць цыфры аб ваеннай здабычы ў баёх за крэпасьць Сэвастопаль. За час ад 7-га чэрвеня, гэта значыць, ад пачатку штурму крэпасьці, да 4 ліпеня захоплена 97.000 палонных, сярод іх армейскі камандуючы, Новікаў. Здабыта 467 гарматаў, 26 танкаў, 824 кулямёты, 758 гранатамётаў, 86 процітанкавых гарматаў і 69 процілятунскіх гарматаў. Здабычу цяжкой і лёгкай зброі пяхоты яшчэ нельга зьлічыць. Яна надзвычай вялікая. Крывавыя страты ворага даходзяць да 40.000 забітых. Здабыта 3597 бункраў і ўмацаваных уладжаньняў ўсялякага роду. Сярод іх найбольш навэчасныя й наймацнейшыя фарты «Максім Горкі I і II» у якіх знаходзіліся 30,5 цм. гарматы. Як расказваюць палоныя, у першых днях уцяклі некаторыя вышэйшыя афіцэры.

Агульныя страты нямецкіх войскаў у штурме на Сэвастопаль складаюць 872 афіцэры й 23.239 падафіцэраў і жаўнераў, з іх 190 афіцэраў і 4147 падафіцэраў і жаўнераў пала, 11 афіцэраў і 1580 падафіцэраў і жаўнераў згінула, рэшта— раненыя.

Лятунства бязупынна падтрымлівала апэрацыі сухапутных войскаў. За час ад 2 чэрвеня да 4 ліпеня зроблена 23.751 налёт баявымі машынамі ўсялякага роду. Зьбіты 123 варожыя самалёты, 18 зьнішчана на зямлі. Затоплена чатыры варожыя зьнішчальнікі, падводная лодка, тры хуткабежныя лодкі, шэсьць прыбярэжных суднаў і чатыры фрахтары. Згінула толькі 31 нямецкіх самалётаў.

**Паход на Крым,** які пачаўся 21 чэрве-

**(Працяг на 2-й бачыне).**

# На шляху ангельскага адступленьня

**На шляху ангельскага адступленьня. Роммэль атрымлівае з Тобруку падмогу. Кожную хвіліну фронт пасоўваецца далей. Рабочыя калёны папраўляюць выежджаныя дарогі ў пустыні. Газавыя маскі — ахова ад пражэктараў. Паветраныя віры твораць высокія слупы ў белы дзень. Віа—Бальбія (дарога ў Паўночнай Афрыцы) была за цеснай для брытанскага адуступленьня.**

Тобрук ужо даўно здабыты. Ён цяпер служыць толькі, як тылавое заспасабленьне. На яго аэрадромах ляжаць разьбітыя ангельскія самалёты. Часьць навейшых зьнішчальнікаў трапіла непашкоджаная ў нашыя рукі. На дарогах ляжаць пустыя бакі ад бэнзыны, кансэрвы, пачкі, багаж, валізкі, адзежа і другія рэчы. «Небясьпечна — міны!» — кажуць надпісы перад мінавымі палямі, якія павесілі анкалючымі дратамі. Яны не затрымалі штукалючымі дротамі. Яны не затрымалі штурмовага наступу танкавых брыгадаў Роммэля. Яны больш не прадстаўляюць ніякай небясьпекі. Надарэмныя перашкоды, якія не зьяўляюцца загародай, бо іх будаўнікі ня ведалі глыбокай ідэі і сэнсу сьветазарнага заданьня сваёй работы.

### Быстры наступ.

Усюды відаць згарэўшыя абозы, як шкелеты. Яны сталіся часткай пустыні— выпаленыя й апусьцеўшыя помнікі адступленьня. Над разьбітымі брытанскімі танкамі вецер гоніць пясок. Сярод слупоў з ангельскімі надпісамі, на якіх азначаны англійскія пасты й часьці, якія даўно ўжо знаходзяцца за Гальфійскім узвышшам, стаіць многа слупоў з нямецкімі і італьянскімі надпісамі Розныя варштаты раскінуты навокал. Апошнія рэшткі тылавога заспасабленьня можна там заўважыць. Штодзень, кожную гадзіну фронт пасоўваецца наперад. З ім уся армія павінна ісьці, не адстаючы: палаткі здымаюцца й будуюцца йзноў, абозы нагружаюцца, выгружаюцца— усё далей і далей, каб не адстаць ад хуткага наступу.

Безперарыўна ідзе падмога з тылоў. Нястрымана яна праходзіць праз былыя танкавыя загароды. Астаўшыеся бэтонныя стаўбы гэтых загародаў цяпер ня маюць ніякага значэньня. Жалезныя штабы стаяць у бязладзьдзі й міма іх можна свабодна праехаць. Калі адзін самаход пераганяе другі, або калі самаходы спатыкаюцца, падымаюцца хмары пылу. Направа й налева параскіданы апоны ад самаходаў.

### Танкі сярод грузавікоў.

Дарога ў Паўночнай Афрыцы, гэта Віа Бальбія, адступаючым ангельцам была за цеснай. Усюды мінавыя палі. Направа й налева ад асфальтовай шасы ў бязладзьдзі пакінуў вораг розны ваенны матарыял. Шмат магілаў нямецкіх паўшых жаўнераў разьехана. Мейсцы апошняга супачынку зьнішчаны без усякай пашаны...

Сярод нямецкіх грузавікоў імчаць наперад з грозным грукатам танкі. Яны нішчаць дарогу. Гусеніцы выбіваюць дзіры, але калёны рабочых зараз-жа іх папраўляюць.

Усё горшай і горшай становіцца дарога, бо на эгіпецкай тэрыторыі няма асфальту. Шофэры стаяць у пылу, працуюць над маторамі й ачышчаюць карбюратары ад пяску. Адзін з шофэраў згубіў зацямняючую пакрыўку. Ён на пражэктар налажыў ангельскія газавыя маскі, якія мёртвымі вачыма глядзяць у даль. Глядзяць туды, дзе грыміць гул гарматаў, дзе кіпяць баі, панурае водгульле якіх даносіць да нас вецер.

Марш усё ідзе наперад. Па сторанам знаходзяцца лётнішчы, якія яшчэ дзень перад тым знаходзіліся ў ангельскіх руках. Але цяпер падымаюцца нашыя самалёты і зьнішчальнікі, якія лятуць супроць ворага. Далей і далей! Толькі гэтае пачуцьцё б'е, як молат, у сьведамасьці ўсіх жаўнераў, перамогшых у баёх каля Акромы й Эль-Адэм і здабыўшых Тобрук. Машыны, танкі й самалёты — гэта нашыя перамогі.

Падымаюцца высокія паветраныя віры. Сьветлы дзень меркне. Горача над эгіпецкай зямлёй паліць сонца, як вечная нязьменная ўсьмешка яе, глядзіць на перамогу ці паражэньне...

# Суэцкі канал

Вялізарны афрыканскі кантынэнт з найвялікшай часткай сьвету Азіяй палучаны толькі вузкім перасмыкам, маючым менш за 100 км. шырыні. Лёгка было гэты перасмык прабіць і стварыць тут штучны судаходны шлях, робячы збытным трываючы месяц навакольны шлях ля мысу Добрае Надзеі, а праз гэта паўдзённая й ўсходняя Азія за адным замахам адносна часу падарожжа больш як на палову зьбліжана да Эўропы. Аднак да гэтае думкі ня прыйшлі пануючыя на моры англійцы. Наадварот, калі ў палове мінулага стагодзьдзя французы прыступілі да пабудовы Суэцкага каналу, брытанцы супроцьставіліся гэтаму прадузяцьцю. Дзесяцігоднай працай у гадох 1959—1869, паўстаў вялікі твор, злучыўшы два сьветныя моры. Ініцыятыву ў першай лініі даў вікомт Фэрдынанд дэ Лесэпс, а пляны паходзяць ад аўстрыяцкага інжынэра Нэгрэльлі. Ня гледзячы на гэта, брытанцы патрапілі дабіцца таго, — гэтай справай асабліва хваліўся ведамы жыд Бэнджэлін Дызраэлі — што не пасьпела прайсьці 6-ці гадоў, як гэты найважнейшы марскі шлях у сьвеце праз набыцьцё бальшыні акцыяў каналу апынуўся ў ангельскіх руках. На гэтым прыкладзе выяўляецца чыста брытанскі спосаб дзеяньня: чакаць, пакуль іншыя народы плянуюць, працуюць і будуюць, каб самым пасьля зьбіраць ураджай.

Ад гэтага часу Англія ўжыла ўсяе сілы дзеля ваеннага забясьпечаньня Суэцкага каналу, у якім яна бачыла жыцьцёвую лінію да сэрца Імпэрыі — Індыі, да Аўстраліі і Ўсходняе Азіі. Суэцкі канал надзвычайна падняў інтарэсы Англіі на Міжземным моры. На ўмацаваньне Гібральтару й Мальты, як марскіх апорышчаў, Англія выдала вялікія сродкі. Над усходнім Міжземным морам Александрыя была разбудавана як марская крэпасьць й Эгіпет поўнасьцю ўзяты пад англійскі ўплыў. Ля выхаду з Чырвонага мора брытанскія інтарэсы меў бараніць Адэн. У сусьветнай вайне 1914—18 г.г. гэтая брытанская жыцьцёвая лінія была ўжо раз загароджаная нямецкімі й турэцкімі войскамі. Каб зьменшыць небясьпеку для Суэцкага каналу, Англія апанавала й Сырыю, ды запэўніла саб перадусім панаваньне ў Палестыне і Трансярданіі.

Англія ведае, што яна мае бараніць у Суэцкім канале й як моцна будзе датнкёна загароджаньне гэтае жыцьцёвае лініі. Перад выбухам вайны Суэцкім каналам у год праходзіла больш за 6.000 акіянскіх параходаў, з чаго амаль палова пад брытанскім сьцягам. Аднак, посьпехі ваенных сілаў гаспадарствай восі паважна спаралікавалі гэты шлях, лучачы Англію з азіяцкімі часткамі Імпэрыі. Праз Міжземнае мора Англія ня можа на'т пад мацнейшай аховай ваенных караблёў пераправіць амаль ніводнага канвою. Асабліва з прычыны чуйнасьці й ударных сілаў лятунства гаспадарстваў восі на Сыцыліі і Крыце праход праз Міжземнае мора ў рэчаіснасьці зусім зачыняецца.

Суэцкі канал шмат праз гэта страціў на сваім пачатковым значэньні для Англіі. Важным ён, аднак, застаўся для Брытанцаў, як шлях папаўненьня для сырыйскага й паўночна-афрыканскага фронту. Гэтае папаўненьне, аднак,—паколькі яно йдзе з мэтраполіі, прысуджана на ўжыцьцё вельмі доўгага навакольнага афрыканскага шляху. Праз гэтае ўтрудненьне англійскае заспасабляючае суднаходзтва зьяўляецца надзвычайна цяжка даткнёным. Патрэбы даставы значных колькасьцяў войска, рознага гатунку аружжа, а асабліва ваеннага флёту для аховы Суэцкага каналу так шмат спрычыніліся да аслабленьня брытанскае сілы супраціву ўва усходняй Азіі, што ейныя найважнейшыя базы ваеннага флёту для аховы Суэцкага каналу у надта кароткім часе папалі ў японскія рукі.

Як багатыя здабычы прынёс Суэцкі канал для брытанцаў у часе супакою, так нязвычайна вялікім абцяжэньнем стаўся ён для брытанскага змаганьня ў часе вайны. Шырока раскінутыя абшары Імпэрыі змушаюць сяньня англійцаў вельмі моцна расьцярушваць іхнія сілы. Англія цяпер ня мае магчымсаьці ўсюды быць дастаткова моцнай, каб магчы абараніць сваё майно. Суэцкі канал, некалісьці гордасьць пануючае на моры Англіі, сяньня зрабіўся адным з наймацнейшых клопатаў ураду Чэрчыля. Апрача таго, ён ужо даўно знаходзіцца ў засягу нямецкіх і італьянскіх бамбоўцаў, якія рупяцца, каб брытанцы ня чуліся бясьпечнымі на абшарах Суэцкага каналу. Сяньня, калі Японія ўжо ламочацца ў брамы Індыі, робіцца штораз ясьнейшым, якое значэньне дзеля агульнага ваеннага палажэньня мела вылучэньне Суэцкага каналу, як вялікага шляху Англіі ў Індыю й Аўстралію.



**З баёў на афрыканскім фронце**

Пазыцыі ангельцаў пад градам бомбаў нямецкіх штукасаў. На пярэднім пляне італьянскія пасты.
**ПК— Здымка: Ваен. спр. Таннэнбэрг (НН)**

# Чэрчыль павінен прызнацца

**У Ніжняй Палаце дамагаюцца дыскусыі аб страце караблёў і ілжывай прапагандзе ў Англіі.**

Швэдзкія камунікаты з Лёндану падаюць, што ў выніку вялікіх стратаў караблёў, трэба спадзявацца дыскусыі ў Ніжняй Палаце. Многія дзеячы прафэсыянальных саюзаў і іншыя прадстаўнікі ўжо патрэбавалі дэтальных выясьненьняў у гэтай справе. Усе дамагаюцца дакладнага выясьненьня, з прывядзеньнем цыфраў, аб мерапрыемствах, якія зроблены супроць нападаньня на караблі падводнымі лодкамі й самалётамі праціўніка. Урад, як думаюць, запатрабуе, каб дыскусыя была праведзена сэкрэтна. Тымчасам апазыцыя стаіць на тым, становішчы, што грамадзянства павінна ведаць аб стане стратаў танажу. Але за зачыненымі дзьвярыма гэтага зрабіць нельга.

Акрэсьленыя прапановы ў сучасны мамэнт кажуць аб тым, што цыфры стратаў яшчэ на некалькі месяцаў ня могуць быць агульна вядомы.

Ёсьць намёкі, што Чэрчыль і ў Вашынгтоне гаварыў адкрыта аб стратах караблёў. І там прыйшлі да таго-ж вываду, што ў гэтай справе найлепш чым найменш гаварыць. Як паведамляе «Ніа Даглід Алеганда» з Лёндану, далейшай тэмай дыскусыяў у Ніжняй Палаце будзе ангельская агітацыя. Ужо цяпер кансэрватыўная партыя выступае супроць міністра інфармацыі Брэндэн Браккэн за тое, што ён «лье сыроп пацяшаючых камунікатаў на народ».

# Англія аглядаецца на дапамогу Злучаных Штатаў

Паводле прыватных вестак, якія надыйшлі з Лёндану ў Швэцыю, пасол Уэрдлей Мольнэ выказаў некалькі вельмі цікавых увагаў:

Паводле яго Англія страціла Сінгапур дзеля таго, што спадзявалася помачы амэрыканскага флоту. Але ў Злучаных Штатах аб гэтай помачы нават і ня думалі. Урад Вялікабрытаніі прадставіў адступленьне ў Бурме, як вялікую перамогу, хаця яно ў сапраўднасьці было паўнейшай катастрофай.

«Я сьцьвярджаю — казаў Мольнэ, што ніводзін міністар абароны, калі-б ведаў гэтак добра справу, як мы яе цяпер ведаем, ніколі-б не падаваў такіх інфармацыяў, якія абвесьціў Чэрчыль аб Лівіі 20-га чэрвеня. Бо-ж весткі гэтыя былі памылковыя й няпраўдзівыя».

Далей пасол заявіў, што Англія мела дасюль 5 міністраў заспасабленьня арміі. З гэтых міністраў кожны вызначыў начальніка прадукцыі танкаў. Але ніводзін з гэтых начальнікаў ня меў ніякага паняцьця аб прадукцыі танкаў. Два з іх было спэцыялістамі па дадатковых частках ад матораў, трэці — фабрыкантам самаходаў, а чацьверты — фабрыкантам помпаў.

*Herausgeber und Druck: Sturmverlag G. m. b. H. Königsberg, Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437.*